Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

Viestki j Paviedamleńni

№ 4 (698)
Красавік 2024 г.

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

# Сьвяткаваньне 106-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР

У нядзелю, 24 сакавіка, у грамадзкай залі пры саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылося сьвяткаваньне Дня Волі, гадавіны абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Напачатку імпрэзы прагучалі амэрыканскі гімн у выкананьні Вольгі Казак-Анлар і беларускі нацыянальны гімн “Мы выйдзем шчыльнымі радамі” ў выкананьні Алеся Казака, якому падпявалі ўсе прысутныя. Прысутныя затым прагледзелі відэазварот-прывітаньне ад Старшыні Рады БНР сп-ні Івонкі Сурвіла. Яна адзначыла ва ўступе, што Рада БНР ёсьць самым легітымным урадам Беларусі, і падкрэсьліла, што Беларусь цяпер перажывае цяжкія часы, але нашым папярэднікам, айцам-заснавальнікам БНР, не было лягчэй, і разам з тым яны змаглі зрабіць так шмат. “Дык ня дайце ўзурпатару прадаць Бацькаўшчыну і асіраціць усіх вас!”

Пасьля вядоўца імпрэзы сп. Міхась Чаропка даў слова Старшыні Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) сп-ні Натальлі Федарэнка. Яна прывітала ўсіх з Днём Незалежнасьці БНР і падкрэсьліла, што за гэтыя 106 год, ня гледзячы на драматычныя ўмовы, сфармавалася незалежная і сувэрэнная Беларусь, і сёньня з гістарычнай пэрспэктывы бачна, што абвешчаньне Незалежнасьці БНР стала тым непахісным падмуркам, на якім будаваліся ўсе наступныя формы беларускай дзяржаўнасьці, і ў тым ліку стала магчымым адроджаньне незалежнай Беларусі ў 1991 годзе. “Будзем змагацца, каб Дзень Волі перастаў быць толькі сьвятам, і каб кожны дзень у Беларусі стаў днём волі, годнасьці, стваральнай працы.”

З прывітальным словам выступіла сябар Рады БНР сп-ня Ганна Сурмач. Яна прывітала прысутных і адзначыла, што заўсёды прыемна быць паплечнікаў, каму дарагая гэтая дата і для каго яна зьяўляецца сапраўдным сьвятам. Яна падкрэсьліла, што Рада БНР, якую яна прадстаўляе, зьяўляецца непасрэдным пераемнікам Рады БНР, створанай у 1918 годзе, і праз гэта мае мандат Усебеларускага зьезду, які быў дэмакратычна абраны народам Беларусі. Але цяпер антыбеларускі рэжым Лукашэнкі абвесьціў Раду БНР “экстрэмісцкай арганізацыяй”. Між тым, безумоўна, сапраўдным экстрэмізмам зьяўляюцца дзеяньні рэжыму ў барацьбе супраць беларускага народу. Прамоўца адзначыла, што цяпер можна назіраць спробы загнаць Акт 25 Сакавіка ў глыбіні гісторыі, як састарэлы і адслужыўшы сваё дакумэнт. Але на самой справе гэты Акт застаецца актуальным і надзённым, ён мае ў сабе стваральную, мабілізуючую і натхняючую сілу.

Сп-ня Сурмач затым спынілася на гістарычных перадумовах стварэньня Рады БНР і прыняцьця Акту 25 Сакавіка і спынілася на асноўных падзеях тых векапомных дзён, што адбываліся 106 год таму. Яна нагадала, што паседжаньне, на якім быў прыняты Акт 25 Сакавіка 1918 году, праходзіла ў Гарадзкім тэатры ў Менску (цяпер Тэатар Янкі Купалы), і ў ім бралі ўдзел 1872 дэлегаты, сярод якіх значную частку складалі вайскоўцы. Перад тым была Прынятая Першая Устаўная Грамата – якой абвяшчалася, што ўлада ў краі пераходзіць у рукі народу, і Другая Устаўная Грамата, у якой дзяржаўны лад абвяшчаўся Народ-

*заканчэньне на бачыне 4*



# Традыцыйнае сьвяткаваньне Гуканьня Вясны

У суботу, 16 сакавіка, у Осынінгу на беразе ракі Гудзон прайшоў старажытны абрад Гуканьня Вясны, ладжаны беларусамі Нью-Ёрку і ваколіцаў. Ужо шэраг гадоў імпрэза праводзіцца на базе лодачнага клюбу Осынінгу ў маляўнічых мясьцінах, дзе рака Гудзон разьліваецца хіба найшырэй. На імпрэзу, як звычайна, зьехаліся людзі, хто цікавяцца беларускай культурай, традыцыямі, і хто проста хацелі правесьці час сярод сваіх землякоў. Надвор'е выдалася добрае, цёплае і сонечнае. На мачце каля месца правядзеньня імпрэзы лунаілі нацыянальны беларускі й амэрыканскі сьцягі.



Напачатку ўдзельнікі імпрэзы сабраліся ў памешканьні на другім паверсе лодачнага клюбу і падмацаваліся смачнымі стравамі, мачанкай, што падрыхтавалі спадарства Лена і Пётр Рыжыя. Тут жа былі раскладзеныя беларускія кнігі, у тым ліку шмат кнігаў для дзяцей, што прывезла кіраўніца сеціўнай кнігарні "Літарка" спня Натальля К., а побач за сталамі для дзяцей была арганізаваная майстэрня па выцінанцы, гульнях і маляваньні. Людзі мелі нагоду пагутарыць зь сябрамі й знаёмымі, а таксама навязаць новыя знаёмствы. З тэрасы клюбу адкрываецца выдатны краявід, зь відам на раку ў промнях сонца і велізарны блакітны абсяг неба.

Затым удзельнікі сьвяткаваньня выйшлі на бераг Гудзону, і там пачалося традыцыйнае сьвяткаваньне Гуканьня Вясны, якое вялі сп-ні Лена Рыжая, Валянціна Якімовіч і Ганна Шарко. Напачатку сп-ня Лена Рыжая распавяла пра мэту і структуру абраду, для чаго нашыя продкі выходзілі гукаць Вясну, і як трэба ўдзельнічаць у ім. Так як і кожны іншы традыцыйны абрад, Гуканьне Вясны ўяўляе сабою драматычнае прадстаўленьне міталягічных падзеяў, якія мусяць паўплываць на будучую хаду падзеяў рэальных. Сёлета на імпрэзе было шмат дзяцей, і гэта дадавала энэргіі й настрою.

Падчас Гуканьня Вясны ўдзельнікі, узяўшыся за рукі, водзяць карагоды, пачынаюць заклікаць Вясну, сьпяваючы: "Вясна, хадзі да двору! Нясі ключ з сабою, Зіму замыкаці, Вясну адмыкаці!" Але Зіма адразу не здаецца, і ўсім трэба дапамагчы Вясьне пераборадь і перамагчы Зіму. Чуліся сьпевы: "Вясна красна на ўвесь сьвет", "Вол бушуе – вясну чуе", "Пасеялі дзеўкі лён", "Жаваронačкі, прыляціце, вясну красную прынясіце!" Стоючы ўнутры карагоду, арганізатаркі сьвята запявалі традыцыйныя сьпевы, і грамада гучна іх падхоплівала, і вельмі добра дапамагаў падцягваць сьпевы й вадзіць карагоды сп. Сяржук Сай.

Удзельнікі заклікалі птушак хучэй прылятаць й прынесьці ўсім людзям цяпло і сонца на сваіх крылах. Пасярод карагоду паставілі ляльку, выяву ведзьмы Марэны, як сымболь зімы, холаду ды зла, каб ізаляваць яе і прагнаць, і каб разам зь ёю сыйшлі ўсе нашыя праблемы ды хутчэй запанавала вясна ды цёплыя дні. Сёлета Марэна выйшла надзіва прыгожая, і было крышку шкада, што яна сымболь цёмных ды халодных сілаў. Гукальнікі клікалі Вясну прыйсьці і прынесьці з сабою "цёплыя дзянёчкі, частыя дажджочкі, зялёную травіцу". У канцы выгукаў у сьпевах паўтараўся прыпеў перагукваньня: "Гу-у-у-у!". Гукальнікі, што йшлі карагодам па сонцы, уздымалі рукі, узносячы іх у звароце да Бога, Сонца і Сусьвету. Адсюль, напэўна, гэтае сьвята і атрымала назву – Гуканьне Вясны.

Затым на полі, дзе адбывалася імпрэза, былі расстаўленыя стылізаваныя выявы птушак, як заклік да іх прынесьці доўгачаканую вясну на сваіх крылах. Загукальныя песьні й карагоды зьмяняліся вясёлымі гульнямі з жартамі ды пацалункамі, што асабліва падабалася моладзі. Хлопцы й дзеўкі таксама хадзілі "сьценка на сьценку" ў традыцыйным ігрышчы, гулялі ў "цяцерку і ручаёк". Яшчэ дадаліся новыя гульні, як дужаньне зь мядзьведзем, якое зьвязана са сьвятам Камаедзіца, што адзначаецца таксама ў сакавіку, і зьвязанае з сустрэчай Вясны. Яго адзначаюць напярэдадні праваслаўнага Дабравешчаньня, і яно захоўвае паганскія элемэнты татэмнага ўшаноўваньня мядзьведзя ("кама"). Напрыканцы гайдалі вялікі ручнік зь печанымі "птушачкамі", і было спаборніцтва, зьбіраньне раскіданых трэсак – для хлопцаў, і зьбіраньне раскіданых бульбінак – для дзяўчатаў. Хто зь іх назьбірае найбольш, і ў цотнай колькасьці, тады тая асаба першай выйдзе сёлета замуж, або, адпаведна, ажэніцца.

У канцы сьвяткаваньня прысутныя сабраліся зрабіць агульны фатаздымак на беразе ракі. Пасьля гэтага працяг імпрэзы адбываўся ўжо ва ўтульнай залі лодачнага клюбу, дзе ўдзельнікі працягвалі сілкавацца смачнымі стравамі і калегавацца. Была мажлівасьць таксама заняцца пляценьнем паясоў і патаньчыць. Перад прысутнымі выступілі дзьве маладзенькія дзяўчынкі-музыкі, што зайгралі на цымбалах "Купалінку" ды іншыя беларускія народныя мэлёдыі.

Як заўсёды, хочацца спадзявацца, што імпрэза Гуканьня Вясны будзе мець чаканыя добрыя наступствы, і што сілы зімы, цемры, ды кожная іншая навала будуць пераможаныя. І што ў нашай краіне Беларусі сілы сьвятла здабудуць перамогу над сіламі цемры й пакутаў, і нашая Бацькаўшчына перастане быць паняволенай цёмнымі антынацыянальнымі сіламі, вызваліцца і зрабіцца сапраўды вольнай, сапраўды незалежнай і сапраўды беларускай краінай.

Гуканьне Вясны сабрала сёлета шмат удзельнікаў, што прыехалі з розных штатаў. Усьцешна, што шмат хто прывёз з сабою сваіх малых дзяцей.

Асаблівая падзяка ў падрыхтоўцы і правядзеньні сёлетняй імпрэзы належыцца сп-ву Алене і Пятру Рыжым, спням Ганьне Шарко, Валянціне Якімовіч, сп-рам Сяржуку Саю і Аляксандру Мазгавому.

***Віталь ЗАЙКА***

# Ферма Жывёлаў

Перад сваёй заўчаснай сьмерцю ва ўзросьце 46 гадоў Джордж Оруэл напісаў у нататніку апошняе назіраньне: "У 50 кожны мае твар, якога заслугоўвае". Цытата жыве і сёньня, бо, гледзячы на сябе, з узростам мы пагаджаемся, што пержыты досьвед дадае маршчынаў на наш твар. Оруэл меў здольнасьць да назіраньня, якая зрабіла ягоныя творы папулярнымі.

І ёсьць сэнс, што людзі, якія разглядаюць сучаснае грамадзтва праз прызму гісторыі пасьля сьмерці Оруэла ў 1950 годзе спасылаюцца на працу аўтара. У рэшце рэшт, ён красамоўна акрэсліў, наколькі адкрыты фашызм асуджаны на правал яшчэ да таго, як гісторыя дала некаторыя з самых яркіх прыкладаў.

Больш за тое, Оруэл паказаў нам, што той самы фашызм, схаваны больш спрытна празь перакручваньне мовы і выкарыстаньне яе элітамі ў якасьці прылады для прапаганды, можа разрастацца так, што ніхто яго і не заўважыць.

Такое папярэджаньне дае аўтарскае заключэньне ў "Ферме жывёлаў". Суцяшаючыся высокімі абяцаньнямі дабрабыту і бясьпекі, кніга заканчваецца тым, што яе героі ня могуць адрозьніць сваіх прыгнятальнікаў ад вызваліцеляў. "Дванаццаць галасоў крычалі ў гневе, і ўсе яны былі аднолькавымі. Цяпер няма пытаньня, што здарылася з тварамі сьвіней. Істоты звонку пераводзілі позірк са сьвіньні на чалавека, і з чалавека на сьвіньню, і са сьвіньні зноў на чалавека; але ўжо нельга было сказаць, што было што".

Пляніроўшчыкі праз прапаганду распрацоўваюць і ствараюць пляна, каб накіраваць людзей на жывёлагадоўчую ферму. Народ трэба кантраляваць неўсьвядомлена. Недасьведчанасьць – гэта ключ. "Атупленьне" насельніцтва з дапамогаю дзяржаўнай адукацыі і складанага ўвядзеньня словаў, фразаў і ідэяў у грамадзкі лексікон і розум рыхтуе людзей да таго, што павінна адбыцца.

Для гэтай мэты прэвэнтыўна выкарыстоўваецца так званы "ШІ". Вядома, што альгарытмы штучнага інтэлекту навучаюцца тэхнакратамі-карпаратывістамі, яны даследуюць цалкам новыя мэтады мадыфікацыі паводзінаў і кантролю выказваньняў, прызначаныя выйсьці наперад крышталізацыі дыскурсаў і нават фармаваньня ідэнтычнасьцяў і сьветапоглядаў. кантраляваць фармаваньне і ўзнаўленьне "сацыяльных уяўленьняў". Ідэя заключаецца ў тым, каб выкарыстоўваць масавы збор дадзеных і распазнаваньне шаблёнаў штучнага інтэлекту, каб прэвэнтыўна сарваць фармаваньне новых паводзінаў, дыскурсаў або шаблёнаў інфармацыі.

Карпаратыўная дзяржава ня можа іначай падзяліць і заваяваць насельніцтва, каб адцягнуць увагу ад злачынстваў элітарнай і абранай клясы?

Новы сусьветны парадак у сацыяльнай эвалюцыі паўстаў за апошнія пару дзесяцігодзьдзяў, і гэта ня той сьвет, які ведалі Оруэл і нават нашыя бацькі. Вось некаторыя з адметных рысаў нашай цяперашняй фермы жывёлаў:

- дрэйф улева ў дэмакратыях;
- ісламскі экстрэмізм і тэрарызм;
- выбухны ўплыў сацыяльных сетак і іх патэнцыял як для распаўсюду навінаў, так і для злоўжываньняў шляхам распаўсюду прапаганды і дэзінфармацыі;
- мэдыцынская тыранія, у тым ліку пандэмія, але таксама FDA, прымусовае мэдыцынскае страхаваньне і апарат назіраньня Obamacare, бамбардаваньне фармацэўтычнай рэклямай, ачарненьне народнай мэдыцыны і адсутнасьць належнага харчаваньня;
- узмацненьне правіла галасаваньня праз масавыя беспарадкі – калі вам гэта не падабаецца, то выходзьце на вуліцы;
- палітычная, рэлігійная і сацыяльная крайняя палярызацыя і гібель цэнтрысцкіх поглядаў;
- грубае грамадзтва, якое ўслаўляе нахабныя паводзіны, адсутнасьць ветлівасьці і павагі да поглядаў іншых;
- левая тыранія паліткарэктнасьці і лібэральная "паліцыя думкі";
- рух зялёных – высакародная справа, перакручаная лібэраламі, каб узмацніць кантроль над грамадзтвам.

Пабудова новага сусьветнага парадку – гэта пабудова новага чалавека са стэрылізаваным розумам, які не адрозьнівае дабра ад зла. Калі чалавечы розум дэградуе да такой ступені, ён становіцца злом. Грамадзтва ператвараецца не ў мужчыну і не ў жанчыну, а ў масу нечалавекаў злучаных зь дзяржавай. Вы больш не адрозьніваеце свайго прыгнятальніка ад меркаванага выратавальніка.

Яны нас абдурылі. Мы на зьвераферме. Яны гвалцяць нас штодня, і мы ведаем іх злачынныя намеры. Такія палітыкі, як узурпатар, які правёў восем гадоў у фальшывым прэзыдэнцтве, маніпулююць словамі і карыстаюцца сыстэмай узбагачэньня цягам многіх гадоў, а потым выходзяць на казачныя пэнсіі, інакш вядомыя як кансультацыі і выступленьні.

Занадта доўга людзі ня мелі ні каранёў, ні гісторыі індывідуалізму. Непаўнавартаснасьць нараджае непаўнавартаснасьць, і старэньне ўрадаў характарызуецца ўсё большай колькасьцю непаўнавартасных людзей утрыманцаў. Вам ня верыцца, што гэта стан нашага грамадзтва, нашай уласнай Фермы Жывёлаў?

Што самае нізкае ў шкале масавага прамываньня мазгоў? Што ня мае камэрцыйнай каштоўнасьці? Адказ – індывідуальнае здароўе і асабістая свабода. Сыстэма гістарычна супрацьстаіць ім. Ніводны суддьдзя ня будзе вырашаць пытаньяў праўды аб вашым асабістым здароўі або свабодзе. Так званае "грамадзкае" здароўе? Безумоўна, гэта ў кампэтэнцыі дзяржавы, і гэтыя парадкі нам навязаныя, як мы бачым, у апошнія 5 гадоў.

Праўда аб тым, што трэба зрабіць, каб зрынуць такую тыранію розуму і цела, відавочная для тых, хто яе шукае. Але пра гэта ня скажуць вам лявацкія СМІ і тым больш палітыкі. І праўда ў тым, што, хоць некаторыя людзі крыху ўстрывожаныя, мала хто падазрае пра мадэль прагрэсаваньня і, як прапаганда нарэшце ператвараецца ў закон.

Да моманту прыняцьця законаў людзі будуць падрыхтаваны палітыкамі і СМІ прыняць іх як пажаданыя і "карысныя" для грамадзтва.

Адзіны выхад – гэта разумовая свабода – ад несьвядомага да сьвядомага.

Самы першы крок да мэнтальнай свабоды – гэта прызнаць, што палітыка зайздрасьці (клясавай барацьбы) і самаахвярнасьці тонка практыкуецца на нас элітамі і павольна робіцца правільнай для людзей праз іх прапаганду.

Урады, чыноўнікі і палітыкі глядзяць на грамадзтва як на статак, які трэба падмануць і весьці на карысьць ураду і эліты. Па вялікім рахунку, гэта працуе, таму што пераважная большасьць людзей прытрымліваюцца гэтай сыстэмы.

Мы вызваляемся ад сыстэмы, ставячы пад сумнеў аўтарытэт і разумеючы, што сам сумнеў ёсьць прыкметаю інтэлектуальнай свабоды – інтэлект натоўпу заўсёды саступае інтэлекту асобы.

Мэта сродкаў масавай інфармацыі і палітыкі – стварыць грамадзкія настроі і кірунак, процілеглыя рэчаіснасьці. Таму трэба павярнуцца да рэальнасьці, каб адарвацца ад гэтых масавых настрояў.

Адукацыйны ўзровень чалавека тут ня мае нічога агульнага з успрыманьнем рэчаіснасьці. Вышэйшая адукацыя – вышэйшае прамываньне мазгоў. Часам здаецца, што чым большая адукацыя, тым большы дурань.

Палітычная махлярская гульня – гэта ператварэньне людзей у ферму жывёлаў. На дзяржаву трэба глядзець з нашых пазыцыяў – нашай самабытнай культуры, пераканаьняў і традыцыяў. Пакуль гульня ня будзе разглядацца такім чынам, у чалавека няма інструмэнтаў, каб пазьбегнуць прамываньня мазгоў. Да таго часу нічога ня зьменіцца.

***Б. Л.***

## Сьвяткаваньне ўгодкаў БНР

*заканчэньне з бач. 1*

най Рэспублікай. І вось менавіта Трэцяя Ўстаўная грамата, што абвесьціла Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, і стала Актам 25 Сакавіка, нашай Дэкларацыяй Незалежнасьці і маяком, што асьвяціў дарогу для наступных пакаленьняў беларускага народу, зь якіх выйшлі новыя шэрагі нацыянальных дзеячаў. Надзвычай важныя тэрыторыя і насельніцтва, але гэта не вырашае ўсё, калі паглядзець, напрыклад, на курдаў і бербераў. “Гістарычная задача для нас – не дапусьціць поўнай акупацыі Беларусі Расеяй, пачаць будаўніцтва структураў, што пяроймуць уладу, калі надыйдзе час, спрыяць нацыянальнаму адраджэньню ва ўсіх формах і сфэрах, і так працягваць увасабленьне ідэалаў 25 Сакавіка”.

З прывітальным словам ад парафіі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага выступіў сп. Расьціслаў Гарошка. Ён адзначыў узаемны ўплыў ідэі незалежнасьці Беларусі й Беларускай нацыянальнай царквы і коратка спыніўся на цяперашняй дзейнасьці галавы БАПЦ Уладыкі Сьвятаслава, згадаў пра жыцьцё Янкі Чарапука-Змагара.

Сп. Віталь Зайка выступіў з прывітальным словам ад Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Ён у прыватнасьці адзначыў, што стварэньне БНР у беларускай гісторыі стала нечым, накшталт выбуху супэрновай зоркі, і яна выпраменьвае сьвятло сваё ў будучыню, і яно ідзе да нас і будзе йсьці да наступных пакаленьняў беларусаў праз гады і вякі, праз абыякавасьць і перасьлед. “Шмат хто сёньня зьвяртае свае думкі да тога гістарычнага дня 25 Сакавіка, дык хай жа ён дае нам і далей сілы крочыць і змагацца на шляху да сапраўды вольнай, сапраўды незалежнай і сапраўды беларускай Бацькаўшчыны!”

Затым да прысутных зьвярнулася сьпявачка і сябар Трыё Казакоў сп-ня Вольга Казак-Анлар. Яна падзялілася думкамі пра беларускі бізнэс-форум, што быў ладжаны напачатку гэтага месяца ў Вашынгтоне Амэрыканска-Беларускай Бізнэс-Асацыяцыяй (АБ:БА), і там было шмат беларусаў з усіх штатаў, былі панэльныя паседжаньні па розных асьпэктах узаемадапамогі й разьвіцьця беларускай прысутнасьці ў ЗША. І трэба пашыраць інфармацыю й браць удзел у такіх імпрэзах. Словы Вольгі дапоўніла прадстаўніца аддзелу БАЗА ў Вашынгтоне, сакратар Рады БНР сп-ня Алеся Сёмуха-Грынберг. Яна сказала, што форум сабраў 150 чалавек з розных штатаў, дзеля разьвіцьця прадпрымальніцтва, каардынацыі дзеяньняў, пашырэньня ўзаемадапамогі. Праз разьвіцьцё беларускага бізнэсу будзе пашырацца дапамога вольнай Беларусі. І Вольга, і Алеся былі выступоўцамі на форуме.

Затым адбыўся святочны канцэрт, які падрыхтавалі й правялі музыкі з Трыё сям’і Казакоў. Яны выканалі шэраг мала вядомых народных сьпеваў, “Ой з-пад лесу дый з-пад гаю”, “Ой ты Таццяно”, “Пшанічанька”, а таксама папулярныя песьні як “Цячэ вада ў ярок”. Вольга Казак-Анлар выступіла са сваёй улюбёнай песьняй “Белая-белая, сьветлая-сьветлая”. Удзельнікаў імпрэзы запрасілі на скокі й карагоды, і яны адгукнуліся й актыўна ўдзельнічалі ў танцавальнай частцы праграмы. І музыкі, і танцоры былі задаволеныя ходам справаў і добрым настроем, які далі танцы.

Напрыканцы прагучаў беларускі рэлігійны гімн “Магутны Божа”. Затым удзельнікі сьвяткаваньня зьняліся на агульным фатаздымку на памяць пра імпрэзу.

***Віталь ЗАЙКА***

### Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”!

Паведамляем, што наш інфармацыйны бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні” будзе выходзіць толькі да канца бягучага году. Зь цягам часу, разьвіцьцём тэхналёгіяў і шляхоў камунікаваньня паміж сябрамі нашай арганізацыі неабходнасьць у існаваньні такога роду выданьня паціху адпала.

Заснаваны бюлетэнь быў у пачатку 1980-х гадоў тагачасным старшынём нью-ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Алесем Міцкевічам (пляменьнікам клясыка нашай літаратуры) менавіта як сродак сувязі паміж сябрамі арганізацыі. У 1998 годзе, у сувязі з абраньнем на пасаду старшыні нью-ёрскага аддзелу БАЗА, рэдагаваньне “Вестак і Паведамленьняў” пераняў я. У тыя часы выданьне мела трошкі сьціплейшы выгляд і выдавалася два разы на месяц. Ад сакавіка 2002 году бюлетэнь быў часткаю газэты “Беларус”, органу Галоўнай Управы БАЗА, рэдактарам якой мне таксама давялося быць ад сакавіка 2002 да кастрычніка 2010 году. Ад студзеня 2011 году бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні” стаў друкаваным органам Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”, арганізацыі, што была заснаваная былымі сябрамі нью-ёрскага аддзелу БАЗА пасьля канфлікту з Галоўнай Управай БАЗА. Тады ж на месца нью-ёрскага аддзелу Галоўнай Управай арганізацыі быў створаны бруклінскі аддзел БАЗА, што існуе і да сёньня.

Хачу выказаць удзячнасьць усім падпісчыкам, што падтрымлівалі бюлетэнь цягам гадоў майго рэдагаваньня (1998-2024). Сёньня ў гэта цяжка паверыць, але ёсьць асобы, якія выпісвалі “Весткі й Паведамленьні” цягам усіх гэтых дваццаці шасьці гадоў. Мая ім шчырая падзяка.

Тыя падпісчыкі, што даслалі аплату ў пачатку гэтага году, будуць атрымліваць бюлетэнь да канца году, а ў канцы атрымаюць, як і ў папярэднія гады каляндар Згуртаваньня “Пагоня” на 2025 год.

**Новыя ж падпіскі, калі ласка, больш не дасылайце.**

З пытаньнямі, калі такія ўзьнікнуць, звяртайцеся на емэйл адрас ***viestki@mail.com***

***Марат КЛАКОЦКІ***

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня”**

**Складкі й ахвяраваньні:**

**С. Мядзьведзеў . . . . . . . . . . .60**

**Шчыры дзякуй!**

Аб імпрэзах, якія ладзіць Згуртаваньне “Пагоня”, а таксама пра бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку “Пагоні” ў Фэйсбуку: ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” *Viktar Yedzinovich.***